ВЫДАННЕ АСВЕТНІКАЎ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ

# Настаўніцкая газета

Выходзіць з 20 снежня 1945 года | №83 (4442) СЕРАДА, 19 кастрычніка 1994 года | Кошт па падпісцы — 16 руб., у розніцу — 60 руб.

ВІНШУЕМ!

## НАЗНАЧАНЫ НАМЕСНІКІ МІНІСТРА

**Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь назначаны намеснікі міністра адукацыі і навукі.**

Першым намеснікам міністра адукацыі і навукі назначаны ПЯТРОЎСКІ Генадзь Мікалаевіч.

ПЯТРОЎСКІ Г.М. 1945 года нараджэння, закончыў у 1971 годзе Магілёўскі педагагічны інстытут, кандыдат фізіка-матэматычных навук, дацэнт.

Працаваў начальнікам управлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі.

ГАРНАК Анатоль Міхайлавіч назначаны намеснікам міністра адукацыі і навукі.

ГАРНАК А.М. 1936 года нараджэння, закончыў у 1959 годзе Беларускую сельскагаспадарчую акадэмію, кандыдат эканамічных навук, прафесар. Працаваў намеснікам міністра адукацыі.

КАЗУЛІН Аляксандр Уладзіслававіч назначаны намеснікам міністра адукацыі і навукі.

КАЗУЛІН А.У. 1955 года нараджэння, закончыў у 1980 годзе Беларускі дзяржаўны універсітэт, кандыдат матэматычных навук, дацэнт. Працаваў першым намеснікам міністра адукацыі.

ГАЛКО Таццяна Яўгенаўна назначана намеснікам міністра адукацыі і навукі.

Галко Т.Я. закончыла Беларускі дзяржаўны універсітэт у 1970 годзе, кандыдат гістарычных навук, дацэнт. Працавала начальнікам управлення вышэйшых навучальных устаноў і педадукацыі Міністэрства адукацыі.

СТАЎРОЎ Васіль Пятровіч назначаны намеснікам міністра адукацыі і навукі.

СТАЎРОЎ В.П. 1940 года нараджэння, у 1962 годзе закончыў у Чэлябінску політэхнічны інстытут, доктар тэхнічных навук, прафесар. Працаваў загадчыкам кафедры Беларускага дзяржаўнага тэхналагічнага універсітэта.

## ЗВАРОТ

УДЗЕЛЬНІКАЎ МІЖНАРОДНАЙ НАВУКОВА-ПРАКТЫЧНАЙ КАНФЕРЭНЦЫІ "РОЛЯ СЯМ'І І ДАШКОЛЬНЫХ УСТАНОЎ У РАЗВІЦЦІ АСОБЫ ДЗІЦЯЦІ Ў СВЯТЛЕ ІДЭЙ Л.С.ВЫГОЦКАГА І ЯГО ПАСЛЯДОЎНІКАЎ" ДА НАРОДАЎ СВЕТУ

Мы, удзельнікі канферэнцыі, якія сабраліся на зямлі Беларусі, звяртаемся да ўсіх добрых людзей свету.

У Міжнародны год сям'і заклікаем вас дапамагчы дзецям знайсці радасць, шчасце, дабрабыт. Чалавецтва на парозе XXI стагоддзя перажывае шматлікія сацыяльныя, эканамічныя, палітычныя, экалагічныя цяжкасці. Увесь розум, усе фізічныя і інтэлектуальныя сілы кожнага чалавека паасобку і ўсяго сусветнага супольніцтва ў цэлым павінны быць накіраваны на тое, каб захаваць мір на Зямлі, а гэта значыць — захаваць дзяцей і нашу будучыню. Мы звяртаемся і да простых людзей, і да кіраўнікоў дзяржаў. Давайце берагчы мір як самы каштоўны скарб, як найвялікшую мудрасць. Мір — найлепшы падарунак нашым нашчадкам.

Кожны канкрэтны дзіцячы лёс залежыць ад бацькоў і сям'і. Мы звяртаемся да бацькоў з заклікам стварыць умовы для ажыццяўлення правоў дзяцей на ахову іх здароўя, на абарону іх ад фізічнага і псіхічнага насілля.

Мы звяртаемся да педагогаў дзіцячых дашкольных устаноў і школ усіх краін свету. Мы можам і павінны стварыць умовы для самарэалізацыі Асобы, для фізічнага, псіхічнага, інтэлектуальнага развіцця дзіцяці, выхавання грамадзяніна сваёй Айчыны, грамадзяніна Сусвету.

Людзі добрыя! Дзеці Беларусі — ахвяры Чарнобыльскай катастрофы, кожнае пятае дзіця жыве ў мясцінах, засыпаных радыенуклідамі. Мы будзем удзячны сусветнаму супольніцтву за дапамогу дзецям Беларусі.

Клопат аб нашых дзецях — гэта клопат аб захаванні цывілізацыі, гэта надзея на шчаслівую будучыню нашай Зямлі.

Гомель, 1994 год.

СТРАТЭГІЯ АДУКАЦЫІ

## НАВУЧАННЕ ДЭМАКРАТЫІ

### ЯНО ПАВІННА ПРАНІЗВАЦЬ ПРАКТЫЧНА ЎСЕ ВЫКЛАДАЕМЫЯ Ў ШКОЛЕ ПРАДМЕТЫ

(Працяг. Пачатак у № 82, 83).

Што датычыцца методыкі выкладання дэмакратыі, то трэба мець на ўвазе, што навучанне можа весціся ў самых разнастайных формах, якія адпавядаюць узроўню вучняў пачатковых, сярэдніх, старэйшых класаў. Якім бы ні быў узрост вучня, навучанне найбольш эфектыўнае, калі педагогу ўдаецца авалодаць уяўленнем вучняў. Дэмакратыя — гэта якраз такі прадмет, выкладанне якога можа быць творчым і цікавым. Вучні могуць чытаць падручнікі, манаграфіі, біяграфіі, аўтабіяграфіі, эпас, паэзію і іншыя работы, у якіх раскрываюцца і асвятляюцца розныя аспекты дэмакратыі. Яны могуць вывучаць арыгінальныя дакументы, напрыклад, дэмакратычныя хартыі і канструкцыі. Яны могуць ажыццяўляць пастаноўку п'ес, прысвечаных важным падзеям і пытанням дэмакратычнага развіцця. Яны нават могуць гуляць у гульні, разгадваць загадкі і праводзіць конкурсы. Карысна запрашаць у клас дзяржаўных служачых, грамадскіх дзеячаў і палітолагаў, каб яны расказвалі вучням аб сваёй рабоце і адказвалі на іх пытанні. Гэта не толькі дапаможа растлумачыць дзецям, як дзейнічае сістэма кіравання, але таксама будзе садзейнічаць больш нагляднаму яе ўспрыняццю.

Яшчэ адзін спосаб зрабіць дэмакратыю для вучняў рэальнай — прыўнесці яе ў штодзённую работу класа. Вялікі эфект дае прадстаўленая школьнікам магчымасць прымаць удзел у вырашэнні некаторых пытанняў, якія маюць адносіны да іх класа. Няхай яны галасуюць па пэўных праблемах. Карысна, калі педагог дазволіць ім працаваць у групах, навучаць іншых дзяцей, размяркоўваць рэсурсы, рабіць даклады і праводзіць дыскусіі ў класе. Уся гэтая дзейнасць патрабуе пэўных навыкаў, якія жыццёва неабходны ва ўмовах дэмакратыі. І гэтыя навыкі часта набываюцца значна лепш праз уласны вопыт, чым дыдактычным шляхам.

Прывіваць вучням дэмакратычны стыль паводзін выкладчыкі могуць і праз уласны прыклад работы з класам. Выкладанне якога-небудзь матэрыялу ў выглядзе лекцый не заўсёды з'яўляецца найлепшым спосабам устанаўлення кантакту з вучнямі. Навучэнцаў трэба часцей уцягваць у дыскусіі і пабуджаць іх задаваць пытанні. Калі яны занадта нясмелыя або не могуць сфармуляваць пытанні або выказацца па іх сутнасці, выкладчык павінен сам ініцыіраваць пытанні і стымуляваць іх абмеркаванне. Вядома, што нашым вучням і настаўнікам цяжка адразу прывыкнуць да гэтага, але відавочна, што такая методыка — адзін з асноўных элементаў адукацыі ў духу дэмакратыі. Відавочна ж, што тыя, хто задае пытанні, заўсёды на крок бліжэй да ісціны.

У цэлым шэрагу дзяржаў для адукацыі ў галіне дэмакратыі і правоў чалавека шырока выкарыстоўваюцца магчымасці пазакласнай работы. За межамі класа школа можа прадаставіць вучням мноства варыянтаў для актыўнай дэмакратычнай дзейнасці. Пазакласная работа, уключаючы спартыўныя каманды, клубы і маладзёжныя групы, дазваляе вучням працаваць разам дзеля адзінай мэты, і часта патрабуе ад іх выбіраць сабе лідэраў і прымаць важныя рашэнні. Вучні, якія цікавяцца тэатрам, танцамі, фатаграфіяй, камп'ютэрамі або чым небудзь яшчэ, могуць арганізаваць клубы па інтарэсах, у якіх дэмакратычныя нормы могуць быць увасоблены на практыцы.

Дыскусійныя клубы, у якіх заахвочваецца імкненне вучняў адыгрываць актыўную ролю ў грамадскіх справах, выказваць сваю думку і паважаць думку іншых, асабліва садзейнічаюць развіццю разумення і навыкаў дэмакратыі. Школьныя газеты таксама ўяўляюць сабой эфектыўную і папулярную форму ўцягнення вучняў у важныя грамадскія справы, і ў той жа час развіваюць у іх разуменне ролі сродкаў масавай інфармацыі.

Навучанню школьнікаў дэмакратыі садзейнічаюць таксама агульнанацыянальныя алімпіяды. У ЗША фонд "Клоз ап" ("Дружней самкнём рады") — грамадская арганізацыя, якая ажыццявіла шэраг паспяховых адукацыйных праграм, у 1985 г. правяла алімпіяду "Ситизен би" для заахвочвання вучняў сярэдніх школ ЗША ў іх імкненні больш даведацца аб амерыканскай сістэме кіравання, гісторыі, геаграфіі, эканоміцы і бягучых падзеях. (Гэты конкурс арганізаваны па вобразу і падабенству традыцыйнага конкурсу па правапісанню, у якім вучні, што зрабілі памылку, адсейваюцца). Рыхтуючыся да гэтай алімпіяды, якая праводзіцца штогод, вучні працуюць з матэрыяламі па школьнай праграме, а таксама выкарыстоўваюць дапаможнікі, прадстаўляемыя "Клоз ап". Яны таксама павінны быць у курсе бягучых падзей.

Алімпіяда праходзіць у два этапы. Першы ўяўляе сабой пісьмовы конкурс, другі — вусны, у ходзе якога вучні адказваюць на 4 пытанні. Конкурс пачынаецца ў школах, пераможцы праходзяць на акруговыя спаборніцтвы і конкурсы штатаў. Далей пераможцы з кожнага штата з'язджаюцца ў Вашынгтон (акруга Калумбія) і прымаюць удзел у агульнанацыянальным фінале, сярод прызоў якога, напрыклад, стыпендыі для навучання ў каледжы.

Аналагічны конкурс па асновах дэмакратычнай будовы грамадства праводзіць і Міністэрства адукацыі ЗША. Сумесна з Цэнтрам грамадзянскай асветы яно прыцягвае да ўдзелу ў ім не асобных школьнікаў, а цэлыя класы. Праўда, тэматыка гэтага конкурсу абмежавана веданнем Канстытуцыі ЗША і Біля аб правах. Класы, якія прымаюць удзел у гэтым конкурсе пад назвай "Мы, народ...", вывучаюць спецыяльна падрыхтаваныя матэрыялы па гісторыі і прынцыпах Канстытуцыі, а затым спаборнічаюць як каманды на ўзроўні акруг, рэгіёнаў, штатаў і на нацыянальным узроўні.

Арганізатары пазакласнай работы часта зыходзяць і з таго, што вучні таксама могуць авалодаць метадамі дэмакратыі шляхам стварэння мадэлей дэмакратычных працэсаў. Адной з найбольш эфектыўных мадэлей такога роду з'яўляецца школьнае самакіраванне, пры якім вучні з кожнай узроставай групы выбіраюцца сваімі таварышамі і прадстаўляюць іх інтарэсы пры вырашэнні важных школьных праблем. Школьнікі на практыцы вучацца дэмакратыі, прымаючы ўдзел у перадвыбарнай кампаніі, саміх выбарах і штодзённай рабоце па кіраванню школай. Акрамя таго, школьныя саветы даюць вучням права голасу ў кіраўніцтве школай, што дазваляе ім уплываць на рашэнні, якія закранаюць іх непасрэдна. Такая практыка шырока распаўсюджана ў ЗША.

У заключэнне хацелася б сказаць вось аб чым. Сітуацыя, у якой апынулася Беларусь, вельмі нагадвае становішча ў пасляваеннай Германіі, калі трэба было ў многім мяняць характар і змест дзейнасці сістэмы адукацыі, перагледзець механізмы кіравання адукацыяй, адкрыць для кожнага доступ да якаснай адукацыі, палепшыць падрыхтоўку настаўнікаў і, галоўнае, адмовіцца ад палітызацыі навучальных праграм і метадаў выкладання. Германія прадэманстравала ўсяму свету, што навучанне дэмакратыі магчыма наладзіць у агульнанацыянальным маштабе. Гэта павінна натхняць нас. Больш таго, яўная перавага Беларусі заключаецца ў тым, што краіна па ўласнай волі выбрала дэмакратычную перспектыву. Відавочна, што будучыня рэформаў залежыць ад нас саміх. Гэта не азначае, што поспех прыйдзе сам па сабе. Навучанне дэмакратыі — гэта не дробязны рамонт на скорую руку. Для таго, каб стварыць высакаякасную адукацыйную інфраструктуру і навучальныя планы, запатрабуюцца вялікія намаганні і сапраўдная прыхільнасць справе і з боку органаў кіравання адукацыяй, і з боку навукі, і з боку грамадзян, і, асабліва, з боку педагогаў.

**Сяргей ШАЎРУК,**
**кандыдат гістарычных навук, дацэнт,**
**дырэктар Цэнтра параўнальнай адукацыі**
**Нацыянальнага інстытута адукацыі.**

## ПЕДАГАГІЧНАЯ ПАНАРАМА: ВОПЫТ ГРОДЗЕНЦАЎ ПА АБНАЎЛЕННІ ВЫХАВАЎЧАЙ СІСТЭМЫ

## Прыярытэт — стварэнне нацыянальнай школы

Як дапамагчы школе? Якія ўмовы патрэбны для плённай работы, а сям'і — для выхавання дзяцей? Гэтыя і многія іншыя пытанні вырашаюць сёння аддзелы адукацыі горада і раёнаў, а таксама выканкамы гарадскога і раённых Саветаў народных дэпутатаў.

Я толькі спынюся на некаторых праблемах, якія без удзелу выканкама не вырашыць. Адным з прыярытэтных напрамкаў у сваёй рабоце гарадскі аддзел адукацыі лічыць стварэнне нацыянальнай школы, разумеючы, што менавіта школа закладвае падмурак нашай будучыні. Пачаткам гэтай паслядоўнай працы стала рашэнне гарвыканкама ад 20 чэрвеня 1990 г. па выкананні Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь. Год ад году ў горадзе расце колькасць пачатковых класаў, у якіх дзеці навучаюцца і выхоўваюцца на роднай мове. Так, у 1990 г. працавала 18 беларускамоўных першых класаў, у 1991 г. — 126 такіх класаў, а ў 1992-93 навучальным годзе — 143.

У 1991—93 гг. былі прыняты рашэнні гарвыканкама "Аб рэкламна-інфармацыйнай дзейнасці арганізацый і прадпрыемстваў горада па выкананні Закона аб мовах у Рэспубліцы Беларусь, "Аб пераводзе на беларускую мову навучання і выхавання дзяцей у дашкольных установах", "Аб адкрыцці нядзельнай беларускай школы", "Аб стварэнні Гродзенскай філіі беларускага гуманітарнага культурна-адукацыйнага цэнтра".

Сумесна с саюзам прадпрымальнікаў аддзел адукацыі ў 1994 г. праводзіць завочны конкурс "Зямля пад белымі крыламі" па адраджэнні страчаных народных беларускіх песень і сямейных традыцый.

Да навучальнага года ўдзельнікі падалі на конкурс гістарычныя апавяданні, заснаваныя на рэальных падзеях з жыцця сваіх продкаў і іх землякоў, напісалі свае мелодыі на тэксты народных песень, якія, на жаль, забыты.

Выканкам гарадскога Савета вялікую ўвагу ўдзяляе арганізацыі вольнага часу дзяцей. Рашэннем гарвыканкама ў снежні 1993 г. "Аб рабоце аддзелаў адукацыі па ўкараненні новых форм навучання і выхавання, дыферэнцыяцыі і спецыялізацыі школ горада" адзначана станоўчая работа педагагічных калектываў школ №1, 19, 10, 13, 21, 22 па стварэнні ліцэйных класаў розных напрамкаў, а таксама школы-гімназіі №30, дзе дзеці вельмі ахвотна займаюцца ў розных студыях, гуртках, аб'яднаннях.

Наогул у 24 школах ідзе прадуманае профільнае навучанне дзяцей, што дапамагае арганізаваць разумны вольны час вучняў. Спецыялізацыя, дыферэнцыяцыя школ дапамагае вучням, бацькам выбраць школы суадносна схільнасцям, пажаданням і магчымасцям дзяцей.

Турбуе нас праблема перагрузкі школ. Дзевяць з іх працуюць амаль у тры змены, што не дазваляе ў больш поўным аб'ёме праводзіць выхаваўчую работу. Дапамагаюць школам у арганізацыі вольнага часу дзяцей падлеткавыя клубы Ленінскага і Кастрычніцкага раёнаў.

Так, у падлеткавым цэнтры "Прамень" Кастрычніцкага раёна арганізавана служба "Тэлефон даверу", ёсць умовы для прытулку дзяцей, якія не знаходзяць паразумення з бацькамі. Праводзяцца навагоднія ёлкі, вечарыны; конкурсы для дзяцей-інвалідаў, дзяцей з мнагадзетных сем'яў. Наогул, арыентацыя цэнтра "Прамень" — на работу з сем'ямі, з дзецьмі, якім патрэбна дапамога.

У апошні час, нягледзячы на цяжкасці, усё больш людзей, якія жадаюць узяць на выхаванне дзяцей-сірот або стварыць дзіцячы дом сямейнага тыпу. У горадзе рашэннем гарвыканкама створаны тры такія дамы, у іх выхоўваецца 20 дзяцей-сірот, адкрыты адзіны ў Рэспубліцы цэнтр па рэабілітацыі дзяцей-інвалідаў.

Згодна рашэнняў сесіі гарадскога Савета па праблемах адукацыі, аддзелы адукацыі і педагагічныя калектывы школ, дашкольных і пазашкольных устаноў усё больш настойліва працуюць над стварэннем умоў для якаснай работы педагогаў з дзецьмі, з бацькамі дзеля выхавання свядомай асобы.

**Анатоль ДУДЗІН,**
**загадчык Гродзенскага гарана.**

## "Пагоня" ў надзейных руках

Ля сцен старадаўняй Каложы ў Гародні кожны год адбываецца традыцыйнае пасвячэнне другакласнікаў 9-й сярэдняй школы ў "маленькіх грамадзян" горада. Ужо трэці год запар 9-я школа наладжвае такое сімвалічнае пасвячэнне. Ідэя ўрачыстасці належыць завучу пачатковых класаў Святлане Лапцевай. Не застаюцца ўбаку і сябры згуртавання "Паходня", якія прымаюць удзел у падрыхтоўцы свята.

Ля сівых муроў на ўзбярэжжы Нёмана гучаць музыка, вершы. У разгар дзеяння з'яўляецца Вялікі князь Літоўскі Вітаўт (яго ролю выконвае навуковы супрацоўнік музея гісторыі рэлігіі і атэізму Віктар Руднік) са сваёй узброенай ваярскай дружынай.

Князь звяртаецца да дзяцей з прывітальным словам, а пасля абыходзіць харугвы другакласнікаў, узяўшы ў іх клятву на вернасць Бацькаўшчыне. Потым іх віншуе прадстаўнік гарадзенскіх скаўтаў. На пасвячэнні маленькія грамадзяне знаёмяцца з сімволікай сваёй арганізацыі: са сцягам з відарысам сімвала горада (спачатку гэта быў бел-чырвона-белы сцяг, але пасля зацверджання яго як дзяржаўнага быў зменены на новы), з гербам "Пагоня". Кожны маленькі грамадзянін атрымлівае з рук князя значок "Пагоня". Заканчваецца імпрэза ўскладаннем кветак да Грунвальдскага мемарыяльнага каменя і фатаграфаваннем.

Такім святочным пасвячэннем пачынаецца жыццё другакласнікаў у школьнай арганізацыі "Маленькіх грамадзян", якая аб'ядноўвае ў сваіх радах больш за 900 дзяцей.

29 кастрычніка гэтага года яна адзначае сваю трэцюю гадавіну. А як жа ўзнікла гэта арганізацыя?

Вернемся на тры гады назад — 1990-ы. Год у былым Саюзе трывожны, поўны палітычных звадак, нацыянальных канфліктаў. Пазамыканыя ў мурах школы, адарваныя ад рэальнага жыцця, наскрозь зафармалізаваныя, заблытаныя ў выбары маральных і духоўных арыенціраў піянерскія і камсамольскія арганізацыі выконвалі сваю асноўную задачу — "рыхтаваць змену і рэзерв Камуністычнай партыі Савецкага Саюза" (з Палажэння аб піянерскай арганізацыі). А дзецям надакучыла хадзіць строем, перавыконваць і выконваць, ім хацелася жыць па-новаму, цікава, весела.

Мы зразумелі, што падчас самараспаду акцябрацкіх і піянерскіх структур у школе не павінен утварыцца духоўны вакуум, што дзецям неабходны духоўныя арыенціры, заснаваныя на сапраўдных культурна-гістарычных, маральных каштоўнасцях. Як дапамагчы дзецям набыць сацыяльны вопыт, творчымі асобамі, яркімі індывідуальнасцямі, пісьменнымі, разумнымі, прыстойнымі людзьмі?

Ідучы ад гэтай мэты, вырашылі адмовіцца ад стэрэатыпаў і будаваць выхаваўчую работу, пачынаючы з другакласнікаў, праз прынцыпова новую арганізацыю, імя якой "Маленькія грамадзяне".

"Маленькіх грамадзян" аб'яднала адно — жаданне далучыцца да гісторыі, любоў да свайго горада. Яны вучацца цаніць і любіць родны кут, глыбока вывучаюць традыцыі свайго народа, духоўныя каштоўнасці беларускай культуры. Цікава ўсім — і дзецям, і класным кіраўнікам, і настаўнікам. Чытаюць, шукаюць, знаходзяць нешта новае пра Гародню. А новае амаль усё, таму што да гэтай пары мала што было ім вядома пра Каложу, пра князя Вітаўта, пра герб Гародні, пра старадаўні знак "Пагоні".

Арганізацыя "Маленькія грамадзяне" робіць свае першыя крокі, паступова набываючы новыя рысы. Цяпер харугвы займаюцца і практычнай дзейнасцю. Гэта і дабрачыннасць, і экалагічная праца, і ўдзел у акцыі "Міласэрнасць", і падрыхтоўка да 50-годдзя роднай школы. Маленькія грамадзяне выконваюць розныя заданні, займаюцца пошукавай дзейнасцю. Разам праводзяць яны свой вольны час. Ім вельмі падабаюцца спартыўныя гульні, Дні здароўя, конкурсы талентаў.

Сярод маленькіх грамадзян выбрана рада, якая разам з арганізатарам работы з дзецьмі Юляй Бурхачовай кіруе усёй дзейнасцю арганізацыі. Дапамагаюць і іншыя фарміраванні, створаныя ў школе: рада музея і група самакіравання старшакласнікаў "Цэнтр". Хаця арганізацыя яшчэ вельмі маладая, але ўжо бачна яе роля ў грамадзянскім выхаванні дзяцей, у падрыхтоўцы іх да жыцця, да прыняцця заўтрашняга свету.

Ёсць у арганізацыі "Маленькія грамадзяне" дэвіз: "Давайце заўтра станем лепшымі, чым сёння, а сёння — лепшымі, чым учора". Спадзяемся, што яна стане для нашых вучняў адным з духоўных арыенціраў для ўсяго іх далейшага жыцця.

**Святлана КУПЦОВА,**
**намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце школы №9.**

## МАРАЛЬНЫ ЦЭНЗАР — БЕЛАРУСКІ АСЯРОДАК

У вяночку таполяў, на ўскрайку горада, прытулілася наша сярэдняя школа №5. Няма ў гэтым мікрараёне горада клубаў, палацаў культуры, затое шмат рабочых інтэрнатаў, крам, якія гандлююць спіртным. Ёсць вакзальная пляцоўка, якая нагадвае рынак. І ёсць школа, у якой творчае жыццё працягваецца дапазна, дзе калектыў настаўнікаў кожны год уздымаецца на ступеньку вышэй у спробах вырашыць такія цяжкія задачы выхавання і адукацыі. І нягледзячы ні на якія цяжкасці, ведаюць, што калі не яны, то дзеці застануцца сам-насам з жорсткім, злым, разгубленым светам.

Яшчэ чатыры гады назад, зрабіўшы сацыялагічныя даследаванні, мы прыйшлі да высновы, што змянілася шкала каштоўнасцяў падлеткаў. У той жа час нам пашчасціла пазнаёміцца з аўтарам сістэмы этычнага выхавання А.І.Шамшурынай. Сістэма ўключае ўрочную і пазаўрочную дзейнасць вучняў з 1 па 11 клас. За гэтыя гады дзеці спасцігаюць майстэрства ўзаемінаў, асвойваюць этыкет, этыку чалавечых узаемін, узаемін у калектыве і г. д.

І мы можам смела сказаць, што за два з паловай гады школа накапіла пэўны вопыт правядзення ўрокаў этычнай граматы. І як лагічнае завяршэнне — у 11 класе ўведзен курс "Гісторыя этычнай думкі". Вынікі можна будзе падводзіць пазней, калі цяперашнія малодшыя школьнікі будуць у 11 класе, але ўжо цяпер сістэма этычных заняткаў арганічна ўплялася ў агульны педагагічны працэс. Курс этычных урокаў стаў своеасаблівым прадметам класных кіраўнікоў, садзейнічае натуральнаму пранікненню настаўніка ў свет ўзаемінаў дзяцей класа.

Мы бачым задачу ў тым, каб даць маральныя веды малодшым школьнікам і падлеткам (бо часта веданне гэтых норм застаецца на бытавым узроўні); праводзіць сітуацыйныя гульні са старэйшымі школьнікамі (каб сфарміраваць вопыт паводзін), даць магчымасць паразважаць аб этычнай думцы ў розныя эпохі.

Вопыт працы настаўнікаў паказаў, што ў дзіцячых калектывах паявіліся парасткі вопыту маральных узаемаадносін. У вучняў фарміруецца звычка маральнай ацэнкі асабістых учынкаў з пазіцыі добразычлівасці і павагі адзін да аднаго. Дзеці пачынаюць усведамляць маральную аснову адносін да чалавека, грамадства, Радзімы, працы, прыроды, да самога сябе. У класах, дзе гэты курс вядуць энтузіясты (а такіх шмат), гэта самы любімы ўрок. Такія ўрокі, як "Гімн жанчыне-маці", "Спяшайся рабіць дабро", "Давайце берагчы адзін аднаго", "Чыстая крынічка нашай мовы", не могуць пакінуць абыякавымі. Немалаважна і тое, што і ў класных кіраўнікоў, якія вядуць гэты курс, развіваецца імкненне да асабістага маральнага кантролю. І адносіны з вучнямі набываюць шчыры, даверлівы характар, што дапамагае знаходзіць нестандартныя шляхі ў педагагічным уздзеянні. Настаўніку становіцца лягчэй абапірацца на свет пачуццяў дзіцяці, яго эмацыянальную сферу.

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ПЕРАМАГЧЫ МІНАТАЎРА

"Школа павінна, як магніт, прыцягваць вучняў цікавым, змястоўным жыццём. Толькі пры такой умове і навучанне зможа прыцягваць, як магніт". Гэтыя словы Сухамлінскага з'яўляюцца лейтматывам жыцця нашай школы у апошнія гады. Яна, будучы адной са старэйшых у горадзе — за плячыма — 50. Шмат зроблена, а наперадзе яшчэ столькі запланавана, задумана! І сёння, калі моцна ўпаў агульны прэстыж ведаў, з аднаго боку, і узвінчваецца канюнктурны ажыятаж наконт асобных дысцыплін, з другога, калі дух абыякавасці да жыцця, да таго, што адбываецца, дух прагматызму ва ўзаемаадносінах з равеснікамі напаўняе душы вучняў, педагагічны калектыў школы ў якасці адной з асноўных задач выхавання бачыць — развіццё творчых магчымасцяў вучняў, далучэнне іх да нацыянальных і агульначалавечых маральных каштоўнасцяў. І, як сведчанне рэалізацыі гэтай задачы — стварэнне ў калектыве атмасферы зацікаўленасці і жывога ўдзелу ў падрыхтоўцы і правядзенні розных творчых спраў. Сёння ў нашай школе, якая мае статус школы з паглыбленым вывучэннем англійскай мовы, вядзецца актыўны пошук у гэтым накірунку, пачынаючы з малодшых класаў.

### Меркаванне 1. Перамагчы Мінатаўра, альбо Маленькі Чалавек у новым асяроддзі

— Уявіце сабе на хвілінку, — дзеліцца сваімі думкамі намеснік дырэктара па пачатковай школе Валянціна Баркоўская, — што вы заблудзіліся ў лабірынце, дзе ўсё абсалютна па-новаму, усё інакш, да таго ж ёсць яшчэ і безліч перашкод на вашым шляху. Уявілі? Ну дык вось, менавіта ў такім становішчы аказваецца большасць вучняў пачатковай школы, якія ўпершыню пераступілі яе парог. І наша задача — зрабіць усё магчымае, каб сумеснымі намаганнямі настаўнікаў, вучняў і іх бацькоў перамагчы "стэрэатып Мінатаўра" і ў новым для дзяцей асяроддзі стварыць атмасферу школы радасці, супрацоўніцтва, творчасці.

Вялікую дапамогу ў адаптацыі першакласнікаў да школьнага жыцця аказвае кафедра псіхалогіі Гродзенскага дзяржуніверсітэта. Распрацаваныя супрацоўнікамі гэтай установы тэсты ўжо трэці год запар дазваляюць нам з вялікай колькасці жадаючых займацца ў школе шасцігодак, адбіраць найбольш падрыхтаваных у псіхафізіялагічных адносінах дзяцей. Аналіз развіцця вучнёўскіх калектываў, якія прайшлі адбор праз тэсты, дае магчы-

(Заканчэнне на 2-й стар.)

## ПЕДАГАГІЧНАЯ ПАНАРАМА: ВОПЫТ ГРОДЗЕНЦАЎ ПА АБНАЎЛЕННІ ВЫХАВАЎЧАЙ СІСТЭМЫ

# МАРАЛЬНЫ ЦЭНЗАР — БЕЛАРУСКІ АСЯРОДАК

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

Аналіз вопыту ўкаранення сістэмы этычнага выхавання паказаў, што сістэматычная работа па данай праблеме аказала станоўчы ўплыў на маральны клімат калектыву.

У працэсе працы класных кіраўнікоў у абраным кірунку мы падышлі да пытання "Этычнае выхаванне вучняў на аснове народных традыцый". Так паўстала ідэя распрацаваць індывідуальны школьны план. Перш за ўсё зыходзім з таго, што галоўная задача выхавання ў сённяшніх умовах — адраджэнне духоўнасці асобы на аснове культурнай спадчыны, традыцый і гісторыі свайго народа. Кветкі перакаці-поле гоніць ветрам, бо яны не маюць каранёў.

Багатыя традыцыі народа ў сферы маралі. Гэта традыцыі гуманізму, адносін да працы і прыроды, традыцыі нацыянальнай згуртаванасці, патрыятызму. Яна — аснова нашай выхаваўчай работы.

Мы зразумелі ідэю адраджэння беларускай нацыянальнай школы, як практычнае вяртанне ў яе беларускай мовы, народнай педагогікі, якія заўсёды з'яўляліся магутным фактарам выхавання нашчадкаў, самабытнай духоўнасці народа. Стварэнне кабінета беларускай мовы, фальклорнага калектыву, правядзенне вячорак — вельмі павярхоўны падыход да адраджэння нацыянальнай школы. Мы зразумелі, што патрэбна паслядоўная адукацыя вучняў і самаадукацыя настаўнікаў.

Далучэнне моладзі Беларусі да культурна-гістарычнай спадчыны свайго народа — сродак фарміравання нацыянальнай свядомасці. Аднак і дарослыя, і школьнікі пакуль яшчэ вельмі слаба ведаюць сваю нацыянальную мінуўшчыну, гісторыю, культуру, традыцыі. Таму надзвычай важна, на нашу думку, каб у навучальных планах быў цэлы комплекс беларусазнаўчых дысцыплін. Дарослы можа вывучыць мову, вучань можа ўдзельнічаць у школьным свяце, але роднай мова для іх наўрад ці стане. І толькі дзіця, якое расце ў беларускім асяродку, стане сапраўдным грамадзянінам Беларусі. Што ж датычыцца асаблівасцяў нацыянальнага характару і адметных этнічных рысаў беларусаў, іх традыцыйных рамёстваў і побыту, ведаў пра традыцыйнае жыллё беларусаў, іх адзенне, стравы, абрады, гульні — дык усё гэта ўвогуле заставалася па-за ўвагай навучальных праграм. У Мінску мы пазнаёміліся з праграмай курса "Беларусазнаўства" для 1 — 4 класаў, якая адпавядала вырашэнню многіх задач, і паспрабавалі ўвесці гэты курс спачатку як дадатковы ўрок.

Паступова і акрэсліліся два асноўныя напрамкі развіцця і дзейнасці: "Адраджэнне беларускай нацыянальнай школы" і "Выяўленне маральнага патэнцыялу навучальна-выхаваўчай работы".

Так паслядоўная праца прывяла да стварэння індывідуальнага навучальнага плана, па якім працуем у гэтым навучальным годзе.

У навучальны план, захоўваючы агульны цыкл прадметаў, уведзены наступныя профільныя курсы: "ЭГ" — 1 — 10 кл., "Гісторыя этычнай думкі" — 11 кл., "Беларусазнаўства" — 2 — 4 кл., "Беларускі фальклор" — 5 кл., "Беларускі народны каляндар: святы, абрады, традыцыі" — 6 — 7 кл., "Гістарычная і культурная спадчына Гродзеншчыны" — 8 кл., "Малавядомыя старонкі гісторыі Беларусі" — 9 кл., "Гісторыя беларускай музычнай культуры" — 7 — 9 кл., "Мастацтва і мастацкая праца" — 5 — 7 кл., "Танец" — 2 — 6 кл., "Дэкаратыўна-прыкладная творчасць".

Гродзеншчына багатая народнымі промысламі, здаўна яна славілася сваімі ўмельцамі і майстрамі. Найбольш пашыраны ткацтва, разьба па дрэве, пляценне з саломкі, ганчарная справа. На ўроках працоўнага навучання на аснове самастойна распрацаваных праграм ствараюцца ўмовы для арганізацыі вытворчасці вырабаў, у аснове тэхналогіі якіх ляжаць народныя рамёствы. Вырабы з драўніны, саломкі, сухіх раслін і кветак, нітак, прыродных матэрыялаў выстаўляліся на школьным кірмашы.

З дапамогай профільных курсаў развіваюцца эстэтычныя густы. Выкананне разнастайных творчых заданняў садзейнічае выхаванню ў вучняў пачуцця прыгожага, павагі да працы і людзей працы, прыроды.

Мудрасць народа пазнаюць пяцікласнікі і малодшыя школьнікі праз вывучэнне фальклору. Знаёмства з народнымі забавамі, прыгаворкамі, казкамі пашырае кругагляд дзяцей, узбагачае іх пачуцці і мову, фарміруе адносіны да навакольнага свету.

А ці ведаеце вы такое свята — "Багач"? А абрад "Жаніцьба коміна"? А нашы вучні 6 — 7 класаў ведаюць!

Цяжкасці з палівам не дазваляюць так, як раней, падарожнічаць. Але на ўроках па курсу "Культурная і гістарычная спадчына Гродзеншчыны" ў 8 класе рыхтуюцца сапраўдныя экскурсаводы. А гасцей абавязкова правядуць па зале "Старажытная Гародня". Традыцыйным стаў конкурс "Мы — гарадзенцы".

Праца па маральным выхаванні вучняў і ўвядзенне праграмы "Беларусазнаўства" значна ўзбагаціла прадметныя ўрокі і школьныя святы. Сёння ўжо можна сказаць, што ў школе склалася пэўная сістэма выхаваўчай работы, якая ахоплівае формы як урочнай, так і пазаўрочнай дзейнасці.

Вучні старэйшых класаў аб'ядналіся ў клуб "Дыялог", спортклуб. Працуюць факультатывы "Біблія як помнік сусветнай культуры", "Сусветная мастацкая культура", гурткі "Вазьмі ў рукі саломку", "Фларыстыка", "Дамашняя акадэмія", ВІА "Крыніца" і г. д. Пры школьнай бібліятэцы працуе "Школа Несцеркі" для самых маленькіх. План выхаваўчай работы складаецца з комплексных праграм "Бацькаўшчына", "Выхаванасць", "Здароўе", "Сям'я", "Вольны час", у распрацоўцы якіх прымалі ўдзел творчыя групы настаўнікаў.

Школьныя святы мы спланавалі на падставе народнага календара: "Багач", "Дзяды", Навумаў дзень, Калядкі, Юраўскі кірмаш, Гуканне вясны, Кацярыніны гулянкі і г. д.

У ажыццяўленні планаў нам дапамагаюць абласны навукова-метадычны цэнтр народнай творчасці, Палац дзіцячай і юнацкай творчасці. Але большую частку курсаў узяліся распрацаваць і выкладаць настаўнікі школы. Гэта радуе, бо, нягледзячы на матэрыяльныя цяжкасці жыцця настаўнікаў, у нас працуе калектыў добразычлівых і адказных людзей, якія добра разумеюць значэнне слова педагог.

**Ганна СТАЛЬБОЎСКАЯ,**
намеснік дырэктара школы № 5 Гродна.

# ПЕРАМАГЧЫ МІНАТАЎРА

(Заканчэнне. Пачатак на 1-й стар.)

масць дастаткова высока ацаніць іх, што сведчыць, на наш погляд, пра неабходнасць шырокага распаўсюджання навукова абгрунтаваных і апрабаваных тэстаў у практыцы функцыянавання спецшкол. Розныя ж формы і метады выхаваўчай работы ў пачатковых класах апрабоўваюцца праз дзейнасць клуба "Чамучка". Традыцыйнымі святамі ў рабоце гэтага аб'яднання сталі навагоднія спектаклі, "Гуканне вясны", "Свята восені", конкурсныя праграмы, сустрэчы з цікавымі людзьмі. У падрыхтоўцы і правядзенні творчых спраў прымаюць актыўны ўдзел вучні сярэдніх і старэйшых класаў, бацькі. Гэта дазваляе аб'яднаць вучнёўскі калектыў, перадаваць вопыт ад старэйшых — малодшым. Сёлета напрамкі работы клуба "Чамучка" значна пашыраюцца за кошт таго, што будуць уключаны ў праграму беларускія каляндарна-абрадавыя святы.

Як бачым, такая клубная форма работы дазваляе актыўна ўключаць у выхаваўчы працэс як творчы патэнцыял вучняў пачатковай школы, так і вучняў сярэдніх і старэйшых класаў, а таксама бацькоў і настаўнікаў. І, нягледзячы на складанасці грамадска-палітычных абставін у Рэспубліцы ў апошнія гады, на крытыку піянерскай і камсамольскай арганізацый, на адсутнасць яснасці ў рабоце з вучнямі сярэдніх і старэйшых класаў, у школе склаліся свае традыцыі.

### Меркаванне 2. Новае — гэта не заўсёды забытае старое

— У нашым вучнёўскім калектыве цікавасць да піянерскай арганізацыі, як да формы аб'яднання вучняў сярэдняга звяна, не згасла, — расказвае намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце Барыс Саакян. — Агульны сход школы, які прайшоў у кастрычніку мінулага года, прыняў рашэнне рэарганізаваць піянерыю. Самі дзеці прапанавалі чатыры праекты пераўтварэння. У выніку альтэрнатыўнага абмеркавання, абароны і галасавання перамог той праект, згодна з якім арганізацыя стала называцца "Рэспубліка Атлантыда", у якой кожны клас — гэта горад, які ўзначальвае мэр, горад, які мае сваю назву, герб. Рэспублікай кіруе рада мэраў, у яе таксама свой герб, сцяг, а яшчэ карта, на якой акрэслены назвы усіх уваходзячых у яе гарадоў. Такое нестандартнае вырашэнне, прапанаванае самімі вучнямі, значна пашырыла магчымасці школьнага самакіравання і надало новы творчы імпульс дзейнасці піянерскай арганізацыі.

Інакш сфарміравалася сістэма самакіравання старшакласнікаў. СМБ, які прыйшоў на змену ЛКСМБ, не змог павесці за сабой вучняў старэйшых класаў. Тады ў якасці альтэрнатывы была зроблена спроба стварыць раду старшакласнікаў. Аднак і гэты орган фактычнага ўдзелу ў жыцці школы не прымаў. Але затое паралельна ўзнікла нефармальная група творчых, зацікаўленых, неабыякавых да праблем школы вучняў, да якіх пацягнуліся старшакласнікі. Узнікла ідэя аб'яднання іх на прынцыпова новай, свабоднай і добраахвотнай аснове ў клуб старшакласнікаў. Так самы жыццё падказала аптымальны на дадзены момант варыянт арганізацыі старэйшых вучняў.

Праз раду мэраў і клуб старшакласнікаў і ажыццяўляецца самакіраванне, вядзецца выхаваўчая работа. Арганізуецца яна праз сістэму калектыўных творчых спраў (не больш трох КТС у год). Практыка правядзення іх існуе ў школе дастаткова доўга. У іх ліку — "Наша школа", "Беларусь мая сінявокая", "Турзлёт", "Фестываль англійскіх святаў" і многія іншыя. Не раз праводзіліся і яркія творчыя вечары, у ходзе якіх праявіліся прынцыпы педагогікі супрацоўніцтва паміж настаўнікамі і вучнямі, калі і адны, і другія на роўных выступалі ў розных праграмах ("КВЗ" паміж зборнай настаўнікаў і зборнай старшакласнікаў, конкурсы акцёрскага майстэрства і інш.).

Асаблівасцю сістэмы выхаваўчай работы з'яўляецца тое, што значная яе частка ажыццяўляецца праз пазакласныя мерапрыемствы, якія праводзяцца настаўнікамі кафедры англійскай мовы і літаратуры. Гэта, на наш погляд, спрыяе развіццю не толькі творчых здольнасцяў вучняў, далучэнню іх да дасягненняў сусветнай культуры, але дае і дадатковыя магчымасці для моўнай практыкі.

### Меркаванне 3. Каралеўскія прывілеі, або У гасцях у Англійскім клубе

— Вам ніколі не прыходзілася раней сустракацца і весці размову з каралевай і каралём? — пытаецца намеснік дырэктара па англійскай мове Лізавета Кац. — Не? Тады прыходзьце да нас у школу ў дні, калі праводзіцца англійская КТС, і такую магчымасць мы вам з задавальненнем прадаставім на традыцыйным пасяджэнні Англійскага клуба! Ідэю яго стварэння прапанавалі тры гады назад вучні старэйшых класаў. Па ініцыятыве школьнікаў і настаўнікаў быў распрацаваны цырыманіял урачыстых пасяджэнняў клуба. І хутка ідэю ўдалося ажыццявіць у дні правядзення КТС. Яна адкрываецца выхадам стражнікаў, прывітальным словам англійскага "караля" і "каралевы" (іх ролю выконваюць лепшыя сярод старшакласнікаў знаўцы англійскай мовы), творчым наказам вучням настаўнікаў англійскай мовы, уручэннем узнагарод пераможцам алімпіяд розных узроўняў (мы з гонарам можам сказаць, што ў школе ёсць не проста ўдзельнікі, але і пераможцы рэспубліканскіх алімпіяд), абнародаваннем каралеўскага ўказа аб праграме правядзення КТС. І тады з ранку да вечара школа ператвараецца ў велізарную сцэну, дзе баль спраўляе яе вялікасць Англійская мова.

Конкурсныя, музычныя і гульневыя праграмы, выставы малюнкаў, міні-спектаклі па творах англійскіх аўтараў, экскурсіі па школе, кожны куток якой прысвечаны асобнай тэматычнай старонцы КТС, урокі англійскай мовы, якія праводзяць самыя падрыхтаваныя са старшакласнікаў, — усё гэта і многае іншае ў спалучэнні з касцюмаваннем удзельнікаў прадстаўлення, музычным суправаджэннем і мастацкім афармленнем інтэр'ераў школы стварае моцнае ўражанне і надоўга дае моцны патэнцыяльны зарад удзельнікам і гасцям свята. А завяршаецца праграма КТС вячэрнім пасяджэннем Англійскага клуба, дзе сваю творчасць на сцэне дэманструюць старшакласнікі, якія дапамаглі ў правядзенні усёй дзённай праграмы вучням сярэдніх класаў і настаўнікам, — праводзіцца цырыманіял закрыцця ўрачыстага пасяджэння Англійскага клуба, дзе "кароль" і "каралева" падводзяць вынікі КТС. Па такіх сцэнарыях былі праведзены ўжо тры вялікія святы: прысвечанае творчасці Кіплінга, "Падарожжа па краінах і кантынентах", "Фестываль англійскіх святаў". І, канешне ж, правядзенню гэтых мерапрыемстваў заўсёды папярэднічае разлічаная на цэлую чвэрць (у рамках праграмы КТС) велізарная падрыхтоўчая работа, поспех якой, магчыма, вызначаецца толькі цесным узаемадзеяннем творчых намаганняў вучняў, настаўнікаў і бацькоў.

І мы ўпэўнены, што глыбокаму засваенню замежнай мовы ў школе, дзе традыцыйна ёсць пераможцы абласных і рэспубліканскіх алімпіяд па англійскай мове, садзейнічае не толькі метадычны ўзровень выкладання замежнай мовы, але і сістэма выхавання, якая склалася — а яна садзейнічае творчаму раскрыццю асобы вучняў, прабуджэнню ў іх павышанай цікавасці да вывучаемых дысцыплін. Дадатковыя магчымасці ў гэтым накірунку ў апошнія два гады з'явіліся і ў сувязі з правядзеннем у школе па лініі абласнога Фонду міру сустрэч з вучонымі з Вялікабрытаніі, ЗША і Канады, якія выступаюць перад старшакласнікамі. Аднак падобныя візіты носяць эпізадычны характар, а нам хацелася б у мэтах развіцця моўнай практыкі вучняў і абмену педагагічным вопытам устанавіць цесныя кантакты на доўгатэрміновай аснове з адной са школ любой англамоўнай краіны. Спадзяёмся, што наша прапанова аб супрацоўніцтве не застанецца без увагі.

Калектыўныя творчыя справы сталі неад'емнымі ў выхаваўчым працэсе ў школе, яны, ствараючы ўмовы для рэалізацыі творчых магчымасцяў вучняў, дапамагаюць фарміраванню ініцыятывы, самастойнасці, адказнасці школьнікаў за свае дзеянні і ўчынкі. Без гэтага наўрад ці ўдалося б зрабіць хоць якія значныя крокі ў практычнай дзейнасці. А таму сёння адной з галоўных задач настаўнікаў з'яўляецца далейшае развіццё самакіравання вучняў. Без вырашэння гэтай праблемы на ўзроўні класнага калектыву праблематычна гаварыць аб самакіраванні ў рамках усёй школы.

### Меркаванне 4. ТГ, або Шлях да самакіравання

— Маючы за плячыма дастаткова вялікі вопыт, — разважае класны кіраўнік 8"А" класа Святлана Зарэцкая, — я ўпэўнілася, што на сённяшні дзень рэальнай альтэрнатывы самакіраванню няма. Атрымаўшы тры гады назад класнае кіраўніцтва ў 5 класе, я паспрабавала ажыццявіць некалькі сваіх педагагічных задумак. Імкнучыся да вывучэння асобы кожнага вучня, спрабавала стварыць умовы для рэалізацыі патэнцыяльных магчымасцяў вучняў праз сістэму самакіравання ў класе. Усё пачыналася са стварэння ў вучнёўскім калектыве ТГ — творчых груп (сёння іх чатыры). У аснову іх функцыянавання пакладзена некалькі асноўных прынцыпаў: фарміраванне на аснове ўзаемных інтарэсаў, рухомы склад (калі нехта захацеў перайсці ў іншую групу — перашкод няма), чаргаванне ролі лідэра (кіраўніка), выкананне канкрэтных творчых заданняў, узаемадапамога і супрацоўніцтва ў вырашэнні праблем. Прычым, калі ідзе абмеркаванне нейкіх пытанняў, то першапачаткова рашэнне прадумвае індывідуальна кожны, затым гэта прапанова абмяркоўваецца ў групах і выпрацоўваецца аптымальны варыянт на ўзроўні мікракалектыву, і толькі на заключным этапе меркаванні груп супастаўляюцца і прымаецца агульнае рашэнне.

Я, як класны кіраўнік, развіваючы ў вучняў самастойнасць, ініцыятыву, адказнасць, выступаю ў такіх сітуацыях у ролі кансультанта, памочніка і старэйшага таварыша. Увайшло ў правіла, што ўсе нашы сустрэчы адбываюцца на прынцыпах справавых і ролевых гульняў,а адзін раз у чвэрць, у адну з нядзель, мы бываем цэлы дзень разам, наладжваем падрыхтаванае свята (напрыклад, "Дзень Святога Валянціна" або "Halloween" "Свята Нячыстай Сілы") і інш.

Ці можна гаварыць пра нейкія вынікі? Відаць, можна. Удалося дасягнуць таго, што кожнае дзіця змагло рэалізаваць свае скрытыя магчымасці: адчуць сябе асобай, вартай чалавечай годнасці, з меркаваннем якой лічацца. Вучні сталі больш разняволеныя ва ўзаемінах, узрасло пачуццё адказнасці за даручаную справу, паколькі кожны разумее, што ад яго стаўлення будзе залежаць агульны вынік. Але разглядаю гэтыя дадатныя зрухі не больш як першыя крокі па стварэнні сістэмы самакіравання ў класным калектыве.

**Яўгенія КАСЬЯНОВІЧ,**
дырэктар школы №10.

# ПАДДАНЫЯ МУЗЫЧНАГА КАРАЛЯ

"Адраджайся, мова продкаў, у песнях моладзі гучы!" — такі лейтматыў сістэмы эстэтычнага выхавання ў сярэдняй школе № 3 імя В. М. Усава. Школа наша — з музычным ухілам і працуе чатырнаццаць гадоў, таму ўжо можна гаварыць пра пэўную сістэму працы ў гэтым напрамку.

Прыкладна пятая частка вучняў атрымлівае разам з агульнаадукацыйнай і музычную падрыхтоўку. Дзеці вучацца іграць на фартэпіяна, акардэоне, баяне, скрыпцы, цымбалах, домры, балалайцы. Праграма тая ж, што і ў музычнай школе, але разлічана на восем гадоў.

Шмат увагі ўдзяляецца харавым спевам: у школе працуюць пяць харавых калектываў. Спачатку вучні спяваюць у падрыхтоўчых хорах і ў кандыдацкім хоры "Расінка" (кіраўнік С.А.Галась), затым ва ўзорных калектывах. Іх у школе тры.

Спяваць, як дыхаць, лёгка, радасна, паэтычна, светла — вось чаму вучаць ва ўзорным хоры дзяўчынак "Світанак" (мастацкі кіраўнік І. Дз. Дзейкала). Аснову рэпертуару хору складаюць класічная музыка, беларускія народныя песні і творы беларускіх кампазітараў. Хор "Світанак" — гэта не толькі пявунні-дзяўчынкі, але і дружны, моцны калектыў, дзе ў кожным цэняць цікаўнасць, добразычлівасць, працавітасць і, зразумела, любоў да музыкі.

Не пазнаць хлапчукоў, якія толькі што шумна бегалі на перапынку, калі прыходзяць яны на заняткі ўзорнага хору "Пеўнікі" (кіраўнік Ул. А. Ельчанінаў). Выхаваныя на традыцыях класічнай музыкі, хлопчыкі з задавальненнем, натхнёна спяваюць песні з цыкла "Калядныя спевы":

Магутны Божа! Уладар сусветаў!
Учынкам нашым пашлі ўмалот!
Зрабі магутнай, зрабі шчаслівай
Краіну нашу і наш народ!

Урачыстая музыка ў своеасаблівым гучанні хлапечых галасоў поўніць залу і пранікае ў сэрцы слухачоў, не пакідаючы нікога абыякавым. Яна вучыць быць чысцейшым, лепшым, высакароднейшым. Заняткі хору хлапчукоў з вялікай ахвотай наведваюць многія вучні немузычных класаў.

Дзесяцігоддзе свайго існавання адзначыць у гэтым годзе ўзорны аркестр народных інструментаў пад кіраўніцтвам Г. Я. Левіна. У школе і горадзе калектыў з'яўляецца прапагандыстам інструментальнай музыкі, арганізуючы лекцыі-канцэрты аб гісторыі стварэння інструментаў, аб прыгажосці гучання кожнага інструмента паасобку і гучання яго ў аркестры.

Усе мастацкія калектывы маюць свае традыцыі. Гэта пасвячэнне ў спевакі, дзе музычны кароль ДО - РЭ - МІ - ФА - СОЛЬ разам з вучнямі старэйшых класаў прымае ў склад хору малодшых, уручае ім канцэртныя касцюмы, эмблемы, сувеніры. Харавыя калектывы школы часта выязджаюць у творчыя паездкі ў іншыя гарады краіны і замежжа: Мінск, Брэст, Слонім, Гомель, Дубну, Новарасійск, Калінінград, Пензу. З задавальненнем на святах харавой музыкі сустракалі хоры гасцей з гэтых гарадоў. Разнастайныя формы выхаваўчай работы ў калектывах. Наведванне канцэртаў, спектакляў, выстаў становіцца духоўнай патрэбай харыстаў.

Музычная школа аказвае своеасаблівы ўплыў на ўсю агульнаадукацыйную школу. Напоўненыя прыгажосцю сэрцы вучняў музычных класаў нясуць дух творчасці, натхнення, неардынарнасці. Цікавыя, змястоўныя і пазнавальныя, як правіла, цыклы лекцый-канцэртаў "Беларускія кампазітары — дзецям", "Вытокі прыгажосці Беларусі", "Адраджайся, мова продкаў, у песнях моладзі гучы!", якія падрыхтаваны педагогамі і вучнямі музычных класаў. Яны праводзяцца у тыдзень эстэтычнага выхавання. З захапленнем слухаюць вучні немузычных класаў выступленні сваіх сяброў, якія на працягу года наладжваюць гутаркі "З чаго пачынаецца музыка?", "Музыка ў нашым жыцці", "Усё пра музыку" і інш., распрацаваныя выкладчыкам Т.М.Кузняцовай і выпускнікамі музычных класаў.

Школа ўдзяляе асаблівую ўвагу вывучэнню беларускага фальклору, арганізацыі работы на аснове беларускага народнага календара. Другі год працуе фальклорны гурт дзяўчынак (кіраўнік В.Я. Лукашэнка). З задавальненнем вывучаюць вучні беларускі народны каляндар і ўключаюць заданні ў спаборніцтвы пры правядзенні дзён паралеляў класаў.

Ёсць у нас і танцавальныя калектывы: гурткі народных, бальных і сучасных танцаў.

Душой школьных вечароў з'яўляецца ВІА пад кіраўніцтвам Г.І. Кебіча, ён актыўны ўдзельнік гарадскіх конкурсаў.

"...Мастацка-эстэтычная дзейнасць з'яўляецца важнейшай формай самавыражэння чалавека і адзінай формай адлюстравання духоўнага жыцця, акрамя рэлігіі" — так сфармулявана адна з асноўных мэт выхавання ў "Канцэпцыі мастацка-эстэтычнай адукацыі ў нацыянальнай школе Беларусі".

Наш педкалектыў лічыць выхаванне духоўнасці і міласэрнасці асноўнымі напрамкамі сваёй дзейнасці. Менавіта таму школа была ініцыятарам і выканаўцам дабрачыннага канцэрта на карысць дзяцей-сірот і інвалідаў, у якім удзельнічалі ўсе школы Кастрычніцкага раёна, а таксама ДПЦ "Прамень". Сабраныя сродкі выкарыстаны на лячэнне і аздараўленне дзяцей і інвалідаў і аказанне матэрыяльнай дапамогі дзецям-сіротам.

Ёсць у нас і свае праблемы. Гэта ў першую чаргу — набор музычных класаў. Цяжка стала купіць інструменты, многім бацькам яны проста не па кішэні. А якая ж вучоба без дамашняй падрыхтоўкі? Купіць інструмент — для школы таксама праблема. Калі ўстановы культуры атрымоўваюць іх цэнтралізавана, то асвеце прыходзіцца шукаць выйсце самастойна. Хацелася б палепшыць і базу. Калі б школа не была так перапоўнена, то можна было б яшчэ перабудаваць што-небудзь пад музычныя класы. Пакуль жа працуем не ў лепшых умовах, але аддача ёсць. Кожны год 10 — 15 выпускнікоў музычных класаў паступаюць у музычнае, педагагічнае вучылішчы і вучылішча мастацтваў. Гэта сведчыць пра тое, што душа, напоўненая аднойчы прыгажосцю музыкі, не можа ўжо расстацца з ёю.

**Алена САНЬКО.**







# ДОМ, ДЗЕ ЦЯБЕ ЧАКАЮЦЬ

Не толькі у пісьменнікаў, паэтаў — часамі і ў школьных педкалектывах, якія працуюць, скажам, гадоў 20 (а нашай школе № 20 споўнілася 1 верасня менавіта 20 год) з'яўляецца жаданне азірнуцца на пройдзенае, падвесці вынікі зробленаму, каб лепш убачыць заўтрашняе, яшчэ не пачатае, працей гаворачы, зразумець, ацаніць вынікі ўласнай практыкі. Зроблена нямала. Але што ж самае галоўнае?

Мы імкнёмся будаваць навучальна-выхаваўчую работу так, каб кожны педагог раскрываў і выхоўваў ў сабе лепшае. Мы імкнёмся, каб выхаваўчае ўздзеянне будавалася на разуменні душэўнага стану школьнікаў. Мы перакананы, што настаўнікі ўвесь час вучацца глядзець на сябе вачамі дзяцей. Толькі тады, калі педагогі і дзеці будуць уяўляць сабой не два калектывы, а адзін, прычым творчы, будзе падстава сказаць, што школа паспяхова справілася з сваёй задачай. Мы хочам, каб такія узаеміны і сумесныя калектыўныя творчыя справы — апорныя справы ўсёй школы — сталі цаглінкамі падмурку пад назвай "Дом, у якім ты жывеш, дом, дзе цябе зразумеюць, дом, дзе спадзяюцца і чакаюць".

Колькі б ні мянялася пакаленняў вучняў і настаўнікаў, якія б змены не адбываліся, а дух узаемаразумення, даверу па - ранейшаму пануе ў нашай школе. Вынікамі такой садружнасці сталі зладжаная сістэма школьнага самакіравання, у якую ўваходзіць інстытут дзяжурных камандзіраў, рады па падрыхтоўцы КТС і апорных спраў школы, дзіцячы парламент (5 — 8 кл.), маладзёжны цэнтр (9 — 11 кл.), і, як каардынуючы і накіроўваючы орган, — Вялікая вучнёўская рада. Ёй належыць права прыняцця важных рашэнняў. Прадстаўнікі Вялікай рады ўваходзяць у школьную раду і прымаюць у ёй удзел на роўных правах з настаўнікамі. Таму абодва бакі заўсёды ў курсе ўсіх спраў. Іменна дзякуючы такому ўзаемадзеянню і цеснаму кантакту пакладзены пачатак стварэнню дзіцячай арганізацыі "Грамадзяне Беларусі", прычым настаўнікі ў гэтай справе адыгралі адну з вядучых роляў разам з дзіцячым цэнтрам па стварэнні арганізацыі. А колькі цікавых калектыўных творчых спраў праведзена сумесна з настаўнікамі. Напрыклад, у мінулым навучальным годзе імі сталі: восеньскі баль "Вачэй зачараванне", беларускія вячоркі, "Джэнтльмен — шоу "Што? Дзе? Калі?", КВЗ дзе каманды вучняў і настаўнікаў спаборнічалі ў знаходлівасці і творчасці на раўных, конкурс "Школьная зорка", фестывалі "Вучань года" і "Развітальныя гастролі".

Традыцыйныя і вельмі любімыя вучнямі і настаўнікамі камунарскія зборы, якія праводзяцца на восеньскіх, зімовых і вясновых канікулах. Гэтыя зборы аб'ядноўваюць творчыя магчымасці, творчы патэнцыял вучняў, іх класных кіраўнікоў і проста настаўнікаў- прадметнікаў. Яны дазваляюць рашыць адну з важнейшых задач школы: выяўленне і развіццё індывідуальных магчымасцяў, здольнасцяў, талентаў і зацікаўленасці вучняў.

Шматгадовая практыка правядзення збораў (пачалося ўсё з 1988 года) паказала, што найбольш цесныя кантакты, узаемаадносіны і давер пануюць ў тых калектывах, якія неаднойчы прайшлі праз зборы, асабліва калі ў гэтай справе актыўны ўдзел прымалі класныя кіраўнікі, а такіх класных кіраўнікоў нямала: І.В. Аверук, І.І.Шынкар, С.І.Малевіч, С.І.Блажэй, М.Б.Хархурына, В.І.Хадакова, Р.М.Рыбакова, Н.А.Віннік, М.Д.Аўчыннікава, Т.Г.Уласава, В.У.Луфераў, С.А.Снегурова і многія іншыя. Гэтыя настаўнікі складаюць метадычную раду класных кіраўнікоў. У нашай школе яна праходзіць з улікам асаблівасцяў вучняў кожнага ўзросту: асобна 5 — 6 класы па вывучэнні асноў урокаў этычнай граматыкі, 7 — 9 — класы — па ўдасканалені сістэмы дзіцячага самакіравання; 10 — 11 — па праблеме маладзёжных арганізацый.

Шукаючы новыя формы выхаваўчай работы, мы стварылі творчую групу класных кіраўнікоў, і пад яе кіраўніцтвам ужо на працягу двух год працуе праблемны семінар. Як вынік дзейнасці гэтай групы — панарама КТС, звычайна ў красавіку, якая стала ўжо традыцыйнай. Панарама паказвае спалучэнне розных форм выхаваўчай работы (традыцыйных і новых), такіх, як сямейныя клубы, дыялог — тэма, музычны калейдаскоп, турбой, пасяджэнне фальклорнага клуба, рыцарскі турнір, урокі этычнай граматыкі. І гэта таксама стыль нашай работы.

Ініцыятарам і натхніцелем, душой дзіцячага калектыву стаў маладзёжны цэнтр, створаны на базе дзіцячага парламента. Дзякуючы яму ўжо некалькі год вучні адчуваюць сябе гаспадарамі ў сваім доме, у нейкай ступені адказнымі за ўсё тое, што адбываецца, калі заціхае школьны званок". Іменна па прапанове цэнтра і пры яго непасрэдным удзеле праведзены конкурс "Школьная зорка", які стаў яркай падзеяй, бо аб'яднаў не толькі вучняў, але і настаўнікаў. Дзеці самі знайшлі яшчэ не раскрытыя таленты і прафесіянальных выканаўцаў і нават фундатараў сваёй праграмы. Шоу-прадстаўленне атрымалася здзіўляючым!

У гэтым годзе цэнтр запрасіў удзельнічаць у конкурсе і школьных бардаў з асяродку настаўнікаў і шэфаў.

Спадзяёмся, што гэты новы віток прынясе свае вынікі.

Хочацца адзначыць яшчэ адну традыцыю нашай школы. Гэта святы мікрараёна, у якіх прымаюць удзел не толькі школа, але і мясцовыя жыхары, дзіцячыя сады. Ужо многа год "Зімовыя забавы", "Масленіца", "Зімушка-зіма" сталі неад'емнай часткай школьнага жыцця. А колькі хвалюючых хвілін, поўных чакання, даюць нам такія святы, як Дзень ведаў і "Развітальная гастроль" — 25 мая". Гэтыя падзеі аб'ядноўваюць намаганні не толькі вучняў, але і выпускнікоў мінулых год, бацькоў, сяброў, словам, усіх тых, чый лёс так ці інакш звязаны з 20-й школай. У іх гонар 18 верасня 1991 года ва ўрачыстай абстаноўцы адкрыты унікальны па сваім змесце музей гісторыі школы. Ідэя адкрыцця музея належыць дырэктару школы Ганне Аляксандраўне Зыльковай. А матэрыялы для яго падрыхтавала школьнае фотаатэлье "Імгненне" (кіраўнік Ю.У.Слабажанін). На працягу 10 год фотаатэлье афармляла фотагазеты, фотавыставы, якія і склалі фоталетапіс гісторыі школы. Сёння ўжо ўвайшло ў традыцыю — юбілейныя выпускі (5, 10 год пасля сканчэння школы) святкуюць гэтую падзею ў музеі. На працягу двух гадоў, пасля адкрыцця музея гісторыі, яго наведалі амаль усе выпускнікі, яны выказвалі глыбокую падзяку за тое, што тут іх памятаюць і чакаюць.

Мы вельмі хочам, каб нашых выхаванцаў хвалявалі ўспаміны пра школьнае жыццё, каб, праходзячы каля нашай 20-й, дарослыя выпускнікі ўспаміналі свае школьныя гады з глыбокім пачуццём любові і падзякі.

**Наталля СЦЯПАНАВА,**
намеснік дырэктара па навучальна-выхаваўчай рабоце 20-й школы.

## ПЕДАГАГІЧНАЯ ПАНАРАМА: ВОПЫТ ГРОДЗЕНЦАЎ ПА АБНАЎЛЕННІ ВЫХАВАЎЧАЙ СІСТЭМЫ

# УСЛЕД ЗА ВЫТОКАМІ

За аснову сваёй выхаваўчай работы мы ўзялі справу, дзейнасць. Прычым справы, дзейнасць, народжаныя самім жыццём, памагаюць выращаць сур'ёзныя праблемы, з якімі сутыкаюцца самі дзеці, іх сябры, бацькі, сваякі. Памагчы дзецям знайсці іх могуць толькі дарослыя. Гэта папершае. Па-другое, у кожнага дзіцяці павінна быць права выбару таго, што яго цікавіць. І гэта права можа быць рэалізавана толькі тады, калі ёсць з чаго выбіраць.

Мабыць таму пачатковай школе было прапанавана працаваць па гульнях - падарожжах. Асноўная мэта іх — вывучэнне прыроды роднага краю, гісторыі. Што датычыцца вучняў 5 — 9 класаў, то тут прыйшлося шмат папрацаваць па вызначэнні напрамкаў дзейнасці класных калектываў, пры гэтым улічваючы інтарэсы, жаданні дзяцей, а таксама цікавасць саміх дарослых. Такім чынам, кожны класны калектыў працуе па пэўным напрамку і прадстаўляе сабой профільны атрад. Так, у школе дзейнічаюць атрады "Міласэрнасць", "Турыст", "Юны эстэт", "Сябры малышоў", "Юны краявед", "Пошук" і інш. Заўважу, што для паспяховай дзейнасці профільных атрадаў прыходзіцца, што называецца, "выходзіць на сувязь" з мноствам арганізацый і ведамстваў.

Штогод стала традыцыяй правядзенне сустрэч грамадскіх фарміраванняў і арганізацый з актывам атрадаў, класных кіраўнікоў, дзе дарослыя даюць заказ дзецям, дзеці яго выконваюць і заадно ўзнагароджваюцца.

А цяпер давайце паслухаем сяброў метадычнай рады класных кіраўнікоў.

**А.ЧЫСЦЯКОВА,**
**класны кіраўнік:**

— Прапанавала некалькі профільных напрамкаў работы, і яны выбралі атрад "Міласэрнасць". У анкетах на пытанне "Чаму вы выбралі атрад "Міласэрнасць", вучні пішуць, што хочуць дапамагчы хворым людзям, старым, дзецям-калекам быць дружнымі, рабіць людзям дабро, а Марына Марчанка напісала: "Калі ва ўсіх нас будзе добрае сэрца, значыць мы зможам абараніць тых, хто чакае нашай дапамогі". А работа ў атрадзе дапаможа выхаваць у дзяцей шмат добрых пачуццяў.

Пачалі мы з разведкі карысных спраў. Наладзілі сувязь з Дзіцячым фондам, дзе заключылі дагавор аб супрацоўніцтве атрада "Міласэрнасць" з прэзідыумам Гродзенскага абласнога аддзялення фонду. Намеснік яго старшыні Надзея Канстанцінаўна Кашко расказала дзецям пра Дзіцячы фонд, пра дапамогу, якая неабходна з боку школьнікаў. Яе выступленне не пакінула ні аднаго раўнадушнага.

У школе праходзяць кірмашы на карысць дзяцей-сірот, дзяцей-калек, дзяцей з мнагадзетных сем'яў. У іх наш атрад прымаў самы актыўны ўдзел. Частку вырučаных сродкаў ад кірмашоў, ад збору другаснай сыравіны, за работу у калгасах пералічылі на рахунак абласнога Дзіцячага фонду. Многія вучні нашага атрада, якія жывуць у інтэрнаце, вырашылі ўзяць шэфства над Ірынай Хітрушка (дзяўчынкай-калекай), якая жыве там жа.

Яны разам гуляюць на вуліцы, чытаюць кніжкі, віншуюць са святам, робяць невялікія падарункі. У Ірыны з'явіліся сяброўкі. Дзеці нераўнадушныя да такіх равеснікаў, імкнуцца дапамагчы ім пераадолець сваю хваробу. Цярпенне, настойлівасць, добразычлівасць, абавязак — гэтыя якасці стараюся выхаваць у кожнага дзіцяці, хто працуе з дзецьмі-калекамі.

У газеце "Гродзенская праўда" дзеці прачыталі, што для А. Ярашэвіча патрэбны грошы для лячэння ў Германіі і рашылі пасільна дапамагчы. На рахунак у банку былі пералічаны сродкі. Сума была невялікай, але пачуццё дапамогі, трывогі за здароўе А. Ярашэвіча адгукнуліся ў сэрцах дзяцей.

Наш атрад наладжвае сувязь з Парэцкай школай-інтэрнатам для дзяцей-сірот. З выхавацелем гэтай школы А.У.Афанасьевай мы дамовіліся аб сустрэчы ў Парэччы.

Вучні падрыхтавалі канцэрт, зрабілі падарункі кожнаму дзіцяці. Гэтае мерапрыемства мела вялікае выхаваўчае значэнне. Дзеці-сіроты і дзеці нашага атрада пасябравалі, яны падзяліліся на пары і чыталі падораныя кніжкі, гулялі па лесе, у розныя гульні, а пасля распалілі вогнішча і спявалі песні. Нікому не хацелася расставацца. Адчуваліся добрыя адносіны да дзяцей-сірот, павага і чуласць у адносінах да другога чалавека, спачуванне, спагада і дапамога слабейшаму.

У мікраёне школы жывуць старыя, адзінокія, хворыя людзі. І мы плануем стварыць мікрагрупу па дапамозе ім.

**Л. МАЛЬЕЎСКАЯ,**
**класны кіраўнік:**

— Чаму мы выбралі атрад "Сяброў-малышоў"? Прывязанасць да свайго першага настаўніка ў вучняў застаецца надоўга. Яны пераймаюць яго, стараюцца быць падобнымі на яго, дапамагчы яму, яго новым выхаванцам, стараючыся праявіць з малодшымі дзецьмі тыя лепшыя якасці, якія змог выхаваць у іх саміх іх самы першы настаўнік. А становячыся старэйшымі, ім хочацца расказаць сваім маленькім сябрам, чаму яны навучыліся, што пазналі ў старэйшых класах. Вось чаму яны з такім стараннем рыхтавалі класныя гадзіны ў сваім падшэфным класе пра свой родны горад Гродна, гадзіны па народных казках, гадзіны займальнай матэматыкі, спартыўныя спаборніцтвы.

**Г. БАРСУКОВА,**
**класны кіраўнік:**

— Бывае, нашы паняцці аб маральна-эстэтычных ідэалах носяць агульны характар. А яны ж складаюцца з канкрэтных рэчаў: узаеразумення ў калектыве, умення адрозніваць дабро ад зла, сапраўдную прыгажосць ад уяўнай, са здольнасці спачуваць і дапамагаць і з многага іншага. Але калі гэтыя эстэтычныя ўяўленні і пачуцці не ўжываюцца і не развіваюцца, яны слабеюць і атрафіруюцца, а чалавек ператвараецца ў бяздушную машыну, якою лёгка кіраваць. Таму для выхаваўчай работы ў сваім класе я выбрала менавіта маральна-эстэтычны кірунак, каб прывіць ў вучня асновы эстэтычных уяўленняў, якія праяўляліся б у іх паводзінах, учынках, адносінах да людзей. Прычым задача дарослых не толькі ў тым, каб навучыць дзяцей бачыць і адчуваць прыгажосць асяроддзя, у якім яны жывуць, вучацца, адпачываюць, а і ўцягнуць саміх дзяцей у актыўную дзейнасць па захаванні і стварэнні прыгажосці.

**М. ВАЛЮЛІК,**
**класны кіраўнік:**

— Ідэя стварэння профільных атрадаў вельмі цікавая. Яшчэ восем гадоў назад мы, тагачасныя вучні, марылі, каб нам хто-небудзь дапамог аб'яднацца, зыходзячы з агульнасці інтарэсаў. Нам пашанцавала. Знайшоўся такі чалавек, а нашым захапленнем сталі падарожжы, спорт, дыскусіі. І я як класны кіраўнік вельмі хацела, каб мой клас выбраў турызм. Гэта было бліжэй мне самой і, здалося, неабходна для аб'яднання класа. І мы знайшлі паразуменне.

Чаму турызм так быў нам неабходны? Па-першае, клас быў сабраны. Дзеці павінны былі "адаптавацца" адзін да другога, пасябраваць. Па-другое, дзеці ўсе цікаўныя, творчыя, актыўныя, але і свабодалюбівыя. Яны адчуваюць, дзе з імі лічацца, а дзе не, дзе размаўляюць як з роўнымі, а дзе прымушаюць. А для таго, каб пазнаць адзін аднаго, патрэбны ўзаеміны. І мы пачынаем наша знаёмства з невялікіх прагулак у лес. Ён побач.

Галоўнае для педагогаў — выхаваць чалавека. Сёння востра стаіць пытанне аб чалавечнасці, духоўнасці. Зараз дзеці хутчэй уваходзяць ў свет дарослых, знаёмы са словамі матэрыяльнае становішча, даход сям'і, дабрабыт. І з гэтага пункту гледжання параўноўваюць сябе з іншымі. Некаторыя спрабуюць зарабляць грошы. І добра, калі толькі зарабляць. Але ж важна, каб яны адчувалі сябе і дзецьмі. І ў гэтым яшчэ раз паможа турызм. У канцы мая, як вынік нашай дзейнасці, быў аднадзённы паход, з усёй турыстычнай амуніцыяй. Усё было ўпершыню, цяжка. Але дзеці паказалі, што многае ўмеюць. Мне ўсе стараліся памагчы. І галоўнае, нікога не трэба было прымушаць. Важна ўсё рабіць ад душы. І мы не проста ходзім у паходы. Мы знаёмімся з Гродна, з гісторыяй краю, з людзьмі.

Гродна — гэта сапраўдная гісторыя. Даведваючыся пра яе, мы становімся духоўна багацейшымі, ганарымся ёю і сабой, мы — часцінка гэтай гісторыі.

Работа ў гуртку была арганізавана па плану, прапанаваным дзецьмі. Іх цікавіла ўсё: і паходы, і экскурсіі, і знаёмства з цікавымі субяседнікамі. Мы часта хадзілі ў паходы выхаднога дня па кароткіх маршрутах, пабывалі ў Гудзевіцкім музеі Мастоўскага раёна, у Тракаі, Друскеніках, Жыровіцах, знаёміліся з гістарычнымі помнікамі Вялікай Айчыннай вайны.

Вялікае ўражанне на дзяцей зрабіла наведанне Жыровіцкага манастыра. З цікавасцю і ўвагай дзеці слухалі экскурсавода, які расказаў пра яго гісторыю, пра сённяшнія праблемы, пра культурныя каштоўнасці, створаныя людзьмі гэтага краю.

Турыстычныя паходы з рукзакамі і палаткамі, паходы выхаднога дня спрыяюць загартоўцы дзяцей. Начлег у палатцы, полуднікі, прыгатаваныя на вогнішчы, песні ля кастра надоўга запомняцца. Бацькі падтрымліваюць захапленні дзяцей і па магчымасці ўдзельнічаюць у паходах, паездках.

**Г. КОБРЫНЕЦ,**
**класны кіраўнік:**

— Работу пачалі з састаўлення радаслоўных, г.зн. "Дрэва жыцця", аднак адразу ж сутыкнуліся з няведаннем дзецьмі і бацькамі сваіх продкаў. Толькі да канца навучальнага года большасць дзяцей склалі свае, няхай і самыя простыя, радаводы. А вось С.Сяргейчык саставіла радавод, які налічвае шмат пакаленняў.

Бацькі пазнаёмілі дзяцей з альбомамі, фотаздымкамі, пісьмамі, узнагародамі, якія захоўваліся гадамі без увагі.

Летам многія дзеці з'ездзілі з бацькамі на магілы дзядуль і бабуль.

Паралельна з гэтай работай наведалі музей у Гродне з мэтавымі экскурсіямі, пабылі ў музеі в. Гудзевічы, дзе вялікае ўражанне пакінуў не толькі музей, але і яго заснавальнік Алесь Белакоз.

Вывучаем таксама гісторыю і традыцыі школы, горада і Гродзеншчыны.

Нам думаецца, што мэту выхаваўчай работы — выхаванне грамадзяніна, патрыёта сваёй Радзімы, які любіць свой бацькоўскі край, прыроду, культуру — можна рэалізаваць праз выбраны намі накірунак "Вытокі". Работа профільных атрадаў — гэта цэлы спектр прапаноў, але ні ў якім выпадку не схема. У любым атрадзе — вялікія магчымасці для творчасці. Убачыць гэтыя магчымасці той, хто свядома скіне цяжар "абязалаўкі" з сябе, ні ў якім выпадку не стане навязваць яго дзецям, бо тут вельмі важна пачуццё меры.

**Аліна ФЯДУЦІК,**
**дырэктар**
**сярэдняй школы № 23.**

# МЫ НЕ НА ВОСТРАВЕ

Раскажу пра тое, як мы стварылі сістэму выхаваўчай работы. Раней, першы, самы просты выхад у вонкавы свет давалі грамадскія арганізацыі — камсамол, піянеры, мерапрыемствы розных маштабаў — ад школьных да ўсесаюзных. Не стала камсамола і піянерскай арганізацыі ў ранейшым выглядзе, мы перажылі стадыю пасіўнасці і разгубленасці: "А што цяпер?". У 1987 годзе школа ўступіла ў Асацыяцыю клубаў ЮНЕСКА.

Мы ганарыліся гэтым, але многае было незразумелым. Галоўная думка гэтай праграмы — асоба дзіцяці, гуманізм адносін. Разам з тым, нам хацелася адмовіцца ад таго, што ўжо прыжылося. Таму мы пайшлі па шляху разумнага спалучэння новага і каштоўнага вопыту, набытага намі на працягу многіх гадоў, цеснага супрацоўніцтва вучняў, бацькоў і настаўнікаў.

Сёння я магу з упэўненасцю сказаць — мы выбралі правільны шлях. Кожны месяц у навучальным годзе, за выключэннем арганізацыйнага верасня, маем сваю мэтавую праграму па аналогіі з акцыяй, прапануемай БелАЮ. У кастрычніку — гэта "Чалавек і біясфера", у лістападзе — "Навука на службе чалавека", у снежні — "Спадчына", у студзені — "Культура народаў" і г.д. Праграма ўключае у сябе і аб'ядноўвае намаганні вучняў, педагогаў, бацькоў і розных пазашкольных структур. У падлетка ёсць права выбару, ён можа сябе рэалізаваць у любым мерапрыемстве праграмы.

Нашы вучні выбіраюць тое, што ім па густу і з задавальненнем займаюцца рознымі карыснымі справамі, пры гэтым здольнасці спалучаюцца з жаданнем, а затым пераўтвараюцца ў навык. Дзе гэта лепш за ўсё можа атрымацца? У клубах па інтарэсах. Кіно, гурткі, вечары — усё гэта пабочная дзейнасць клуба. Для чаго патрэбны клуб? Для ўзаемін, без якіх проста нельга абысціся, моладзі асабліва.

1 — 2 разы ў месяц нашы клубы праводзяць Дні адкрытых дзвярэй. Гэта калі ў вялікай зале — фільм, а ў харавым класе — канцэрт, у бібліятэцы — "круглы стол" па актуальных пытаннях, у фае — выстава маладых мастакоў Гародні. Можна выбраць, праўда? І нашы вучні з задавальненнем прымаюць удзел у рабоце клубаў. Некаторыя з іх знаходзяць сябе, знаходзяць сяброў, знаходзяць свой шлях у жыцці.

Самымі папулярнымі ў школе з'яўляюцца клубы: "Месца сустрэчы", клуб спартсменаў, аматараў фізічнай культуры "Здароўе", клуб аматараў прыроды "Экаглабан", педагагічны клуб "Разумнікі" і іншыя. Клуб "Разумнікі" займаецца шэфствам над маленькімі. Прычым у гэты клуб прыйшлі не лепшыя вучні, а тыя цяжкія падлеткі, якія стаяць на ўнутрышкольным уліку. Ці не таму, што ім не хапала бацькоўскай ласкі, нашай настаўніцкай увагі і клопату? Якое свята падрыхтавалі яны на Дзень настаўніка для нас! Думаю, такая сустрэча застанецца надоўга ў памяці настаўнікаў і падлеткаў. Мы глядзелі на нашых вучняў і не пазнавалі іх. Як мяняе цяжкіх падлеткаў карысная дзейнасць!..

Мы нікому не хочам даваць гатовых парад, не прапануем пераняць і зрабіць гэтаксама. У кожнага калектыву свой шлях, свой вопыт. Важна толькі памятаць: школьнае жыццё — не на востраве. Яно — гэта мы!

**Ганна ДУЛУБ,**
**намеснік дырэктара**
**сярэдняй школы № 1.**

# САМАЯ ВАБНАЯ "ТУСОЎКА"

Дзіцяча-юнацкі цэнтр Ленінскага раёна аб'ядноўвае дзесяць падлеткавых клубаў. Яны розныя па профілі. Адны дзейнічаюць ужо шэраг гадоў, а ёсць зусім маладыя, такія, як наш падлеткавы клуб. Пра яго мне і хочацца расказаць.

Клуб займае аднапавярховы будынак, які быў узведзены спецыяльна для работы з дзецьмі. Тут прасторныя і светлыя памяшканні. Падлеткі, іх бацькі і настаўнікі лічаць, што тут пахатняму ўтульна.

У клубе дзейнічаюць гурткі: танцавальны, фота, цацкі, "Умелыя рукі", "Юны канструктар", аэробікі, суднамадэліравання, радыёгурток, шоустудыя, вакальная студыя, "Клуб аматараў бардаўскай песні", секцыя рукапашнага бою і настольнага тэніса.

Вельмі сур'ёзна мы ставімся да падбору кіраўнікоў гурткоў і секцый. Перавагу аддаем творчым педагогам, тым, хто любіць і разумее дзяцей. Можа таму ў клубе заўсёды чуюцца дзіцячыя галасы, і ранкам і ўвечары тут займаюцца справай. Каб нашы дзеці сябравалі, ведалі больш пра сябе і тых, хто побач, праводзім у клубе вечары, конкурсы, спаборніцтвы. Наогул, думаю, запомняцца дзецям конкурсы "Гаспадынька", "Джэнтльмен-шоу", "Баль казак", іграная віктарына, вечар гумару, на які мы запрасілі клуб №16.

Мы супрацоўнічаем з сярэдняй школай №28. Значную дапамогу аказвае нам начальнік ЖЭС № 19 Л.В.Кулевіч. Правялі для дзяцей супрацоўнікаў ЖЭС навагодні ранішнік, падрыхтавалі для іх навагоднія падарункі. Неаднойчы і дарослыя, і дзеці ўдзельнічалі ў працоўных дэсантах: фарбавалі лаўкі ў двары, зграбалі сухое лісце, зімою залівалі горкі для катання.

Частыя госці ў нашым клубе — ветэраны. Да Дня Перамогі дзеці падрыхтавалі канцэрт, вырабілі сувеніры. Не забываем мы і пра дзяцей-інвалідаў. Наведваем іх. Спецыяльна для гэтых дзяцей праводзім "Свята казкі", якое ўжо стала традыцыйным.

Нашы дзеці з задавальненнем прымаюць удзел ва ўсіх мерапрыемствах, якія праводзяцца ў раёне, горадзе. Работы гурткоўцаў неаднаразова экспанаваліся на выставах. Але не гэта самае галоўнае, а тое, што дзеці заняты карыснай справай. У вольны час яны не тусуюцца па пад'ездах, а працуюць, адкрываюць у сабе здольнасці, вучацца марыць, сябраваць, дарыць людзям цяпло і дабрыню. Хіба ж мала?

Але, на вялікі жаль, мы сёння не можам прыняць у клуб усіх жадаючых. У нашым мікраёне "Дзевятоўка" 3 школы, 5976 вучняў і толькі 2 падлеткавыя клубы. Таму нам застаецца марыць пра той час, калі ў кожным мікраёне будзе значна больш такіх клубаў, дзе знойдзе прытулак кожнае дзіця.

Ёсць і іншыя праблемы. Не хапае грошай. Хацелася б мець свой тэлевізар, камп'ютэр, у дастатковай колькасці спартыўнага і гульневага матэрыялу. У канцы снежня на паседжанні райвыканкама будзе разглядацца пытанне аб дзейнасці падлеткавых клубаў у Ленінскім раёне. І мы спадзяемся, што многія нашы пытанні будуць вырашаны.

**Н.ЛАКЦІЁНАВА,**
**кіраўнік падлеткавага**
**клуба №19.**

# ПАДТРЫМКУ ГАРАНТУЕМ

Семнаццаць гадоў назад у Гродне адкрылася многапрофільная пазашкольная ўстанова — абласны Палац піянераў і школьнікаў. Адзіны, унікальны па сваёй архітэктуры будынак у краіне.

Час змяніў многае. Зараз — гэта абласны Палац дзіцяча-юнацкай творчасці. Усяго у розных аб'яднаннях займаецца больш як 4000 дзяцей і падлеткаў.

Выхаваць творчую асобу, раскрыць індывідуальнасць, развіць задаткі кожнага дзіцяці, дзейнічаючы ў цесным кантакце са школай, бацькамі — такую мэту ставіць Палац. У праграме яго дзейнасці вызначаны прыярытэтныя напрамкі: распрацоўка, развіццё і ўдасканаленне выхаваўчай сістэмы на аснове ўласнага педагагічнага вопыту і метадычнага майстэрства, дасягненняў навукі з улікам нацыянальнай спецыфікі; забеспячэнне сацыяльна-псіхалагічнай падтрымкі і дапамогі дзецям і падлеткам, дзіцячым аб'яднанням;

пошук і распрацоўка шляхоў падняцця прэстыжу дадатковай адукацыі, развіцця талентаў дзяцей; рэалізацыя праграм "Адраджэнне", "Міласэрнасць", "Вольны час".

Ажыццявіць гэтыя задачы дазваляе багатая матэрыяльная база: відэакафэ, актавая, спартыўная і танцавальная залы, басейн, камп'ютэрны клас, кабінеты для клубных аб'яднанняў і гурткоў, тэхнічная майстэрня.

Створаны рознабаковы навучальна-метадычны і інфармацыйны банк: аўтарскія праграмы, распрацоўкі сучасных методык і тэхналогій, рэкамендацыі, выставы.

І самае галоўнае — у нас працуе творчы, высокапрафесійны калектыў педагогаў і метадыстаў, арганізатараў вольнага часу.

Атмасфера творчасці і супрацоўніцтва дзяцей і дарослых у Палацы ствараецца традыцыямі. Напрыклад, гэта —

### ПАЛАЦАЎСКАЯ ВОСЕНЬ:

свята пачатку навучальнага года "Прывітанне, Палац!", дабрачынны абласны фестываль маладых талентаў, краязнаўчая экспедыцыя "Мой родны кут", старты абласных алімпіяд, конкурсаў, аглядаў.

### ПАЛАЦАЎСКАЯ ЗІМА:

навагодні баль старшакласнікаў школ горада, зімовая акцыя "Пазашкольныя ўстановы — дзецям-сіротам і інвалідам"; тэатральна-фальклорнае свята "Прыйдзе свята і ў нашу хату"; абласная выстава выяўленчага мастацтва і дэкаратыўна-прыкладной творчасці; конкурс аранжыроўшчыкаў і выстава зімовых кампазіцый.

### ПАЛАЦАЎСКАЯ ВЯСНА:

Вясновая гумарына старшакласнікаў і конкурс гульневых праграм для малодшых школьнікаў;

### ДЗЕНЬ НАРАДЖЭННЯ ПАЛАЦА — СВЯТА ТВОРЧАСЦІ

Палац працуе без канікулаў. Для навучэнцаў вобласці — выязныя зборы, летнік школьнага актыву, для гурткоўцаў — профільныя летнікі, творчыя дні вольнага часу на базе Палаца, выязныя канцэртныя, гульнева-забаўляльныя праграмы.

Пытаннямі пошуку, фарміравання і развіцця творчай асобы займаецца юнацкае навуковае таварыства "Шукальнік" (кіраўнік В.М.Шкулепа). Таварыства створана ў 1976 годзе на аснове гурткоў медыка-біялагічнага профілю. У таварыстве працуе 11 гурткоў па розных напрамках біялогіі. Гурткі ёсць таксама на базе Інстытута біяхіміі АНБ, універсітэта, медыцынскага і сельскагаспадарчага інстытутаў. Кіруюць імі вучоныя і выкладчыкі ВНУ, сярод якіх два доктары і пяць кандыдатаў навук. Усім жадаючым гурткоўцам прапануюцца творчыя заданні, доследчыя работы.

На апошняй, IV рэспубліканскай канферэнцыі сябры ЮНТ Палаца прадстаўлялі тры творчыя работы. У выніку Наталля Шынкарава (цяпер ужо студэнтка ветэрынарнай акадэміі ў Віцебску) атрымала 1-е месца на секцыі экалогіі. Кацярына Рудэнка і Наталля Кужоўнік 2-е на той жа секцыі, Ірына Курганская — 1-е месца на секцыі біялогіі.

Удзел у рабоце навуковага таварыства арыентуе гурткоўцаў на будучую прафесію. Амаль усе найбольш таленавітыя гурткоўцы становяцца студэнтамі.

Гурток "Ткацтва" (педагог М.А.Камінская) пачынаўся з невялікіх работ. На маленькіх кроснах-рамках дзеці ткалі закладкі, паясы, гальштукі.

Цяпер дзяўчынкі ткуць сурвэткі, ручнікі, дываны, але самым вялікім сваім дасягненнем нашы ткачыхі лічаць падвойныя дываны. Гэта тэхніка народнага ткацтва, пры якой атрымліваецца падвойная дывановая тканіна. Яна была распаўсюджана ў заходняй частцы Беларусі ў другой палове XIX ст., але паступова прыйшла ў заняпад. Цяпер лічаныя людзі валодаюць гэтым майстэрствам і вельмі важна, каб яно не знікла.

Сённяшнім падлеткам вельмі цяжка зарыентавацца ў сучасных перыпетыях духоўнага жыцця. Каб дапамагчы разабрацца, што ёсць што, створаны клуб "Дыялог" (кіраўнік Н.І.Вашчанка) для старшакласнікаў школ горада. Для педагогаў распрацоўваюцца курс "Гісторыя развіцця этычнай думкі", "Біблія — скарбніца міравой культуры".

Педагагічная гасцёўня Палаца — гэта магчымасць разам знаёміцца з педагагічным вопытам калег, думаць над пытаннямі сучаснага выхавання, вучыцца педагагічным узаемінам. Як арганізавана работа? Кожны месяц формы рознастайныя: адкрытыя заняткі гурткоў, клубаў, студый, сустрэча з псіхолагам, "круглы стол".

Дзейнічае ў Палацы і сацыяльна-псіхалагічная служба. У кабінеце псіхолага жадаючыя могуць зняць з сябе псіхалагічную напружанасць, рэгуляваць свой настрой. Правільна падказаныя прычыны педагагічных і сацыяльных цяжкасцяў вопытным псіхолагам А.І.Янчынай дапамагаюць дзецям, бацькам і педагогам знайсці выйсце са складанай сітуацыі.

Забяспечыць псіхолага-дыягнастычныя падыходы да выхавання ў пазашкольных установах вобласці, псіхалагічнае суправаджэнне семінараў — гэтыя пытанні рэалізуюцца ў практычнай дзейнасці сацыяльна-псіхалагічнай службы.

За нашым Палацам "пазашкольнікі" вобласці прызнаюць статус абласнога цэнтра інфармацыйна-метадычнай падтрымкі, удасканалення і павышэння прафесійнага майстэрства, аналітычнага прагназавання перспектыў, а таксама арганізатара аглядаў, конкурсаў, выстаў. Змястоўнае ўзаемадзеянне пазашкольных устаноў вобласці рэалізуецца праз праграму "Супрацоўніцтва". У яе аснове — комплексны, праграмна-мэтавы падыход, узаемныя зацікаўленасць і карыснасць, свабода выбару прыярытэтных напрамкаў.

Традыцыйнымі ў нас сталі конкурс "Пазашкольнік года" і агляд дзейнасці пазашкольных устаноў. Яны адкрываюць нам новыя імёны, новыя таленты педагогаў-пазашкольнікаў, адрасы цікавага вопыту.

У выніку нараджаюцца новыя ідэі, вызначаюцца перспектывы вырашэння праблем пазашкольнага выхавання, ствараецца творчы саюз аднадумцаў.

**Тамара СІДАРЭВІЧ,**
**намеснік дырэктара абласнога Палаца**
**дзіцяча-юнацкай творчасці.**

# ПОМНІМ ГЕРОЯ

У мінулым годзе 23 кастрычніка калектыў школы № 15 імя Дз. М. Карбышава адзначыў "сярэбраны" юбілей мемарыяльнага музея Героя Савецкага Саюза, генерал - лейтэнанта інжынерных войск, прафесара, доктара ваенных навук Дз. М. Карбышава. Гэтай падзеі была прысвечана навукова - практычная канферэнцыя. У рабоце канферэнцыі прынялі ўдзел ветэраны вайны і працы, дзеці - вязні фашысцкіх канцлагераў, ветэраны - карбышаўцы, прадстаўнікі грамадскасці горада, госці з Расіі, кіраўнікі карбышаўскага руху СНД палкоўнікі І. В. Смагер, Л. Я. Рэшын.

Юбілею папярэднічала вялікая падрыхтоўчая работа. Музей, які быў створаны ў 1968 годзе, прайшоў шлях ад кутка ў школьным калідоры, да народнага школьнага музея, які размешчаны цяпер у асобным будынку.

З хваляваннем пераступаюць парог музея ўсе, хто яго наведвае. А гэта студэнты ВНУ і тэхнікумаў, ПТВ, школ, воіны, ветэраны вайны, замежныя госці.

Музей з'яўляецца цэнтрам навучальна - выхаваўчай работы школы. Матэрыялы яго выкарыстоўваюцца настаўнікамі беларускай і рускай мовы і літаратуры, нямецкай мовы, гісторыі, курса "Чалавек і грамадства". Асабліва хвалюючымі бываюць урокі, прысвечаныя тэматыцы Вялікай Айчыннай вайны, якія адбываюцца толькі ў залах музея. Вучні слухаюць усхваляваныя расказы экскурсаводаў аб знаходжанні Дз. М. Карбышава ў Гродне ў першыя дні вайны, аб барацьбе ў фашысцкіх канцлагерах і на акупіраванай тэрыторыі.

З музеем Дз. М. Карбышава звязаны школьныя традыцыі. Так, свой першы ў жыцці урок першакласнікі праводзяць у музеі. Не ўсё яшчэ ім зразумела, але, усхваляваныя, праходзяць яны па залах. І гэты першы ўрок яны запомняць на ўсё жыццё. Апошні ўрок у школе выпускнікі таксама праводзяць у музеі. З вялікім інтарэсам яны слухаюць апавяданні сваіх жа таварышаў - экскурсаводаў аб высокім духоўным подзвігу чалавека, чыё імя носіць іх родная школа.

Традыцыяй стала ўрачыста адзначаць штогодна дату 26 кастрычніка — дзень нараджэння героя, а ў лютым — дзень памяці. На працягу тыдня праводзяцца экскурсіі ў музеі, гутаркі ў класах, лепшых вучняў школы прымаюць у карбышаўцы.

Яшчэ адна школьная традыцыя — сустрэчы карбышаўцаў на злётах. Іх было 13, два з іх (у 1967 і 1980 гг.) праводзіліся на базе нашай школы. На ўсіх злётах прымалі ўдзел нашы карбышаўцы.

Работу школьнага музея ўзначальвае рада музея, якая складаецца з вучняў 5 — 11 класаў. Яна вядзе пошукавую работу, шырокую перапіску з карбышаўскімі школамі і музеямі, арганізоўвае гутаркі, лекцыі і экскурсіі на беларускай, рускай, польскай, нямецкай мовах, каб данесці да сэрцаў дзяцей і гасцей музея веліч подзвігу чалавека і грамадзяніна — Дз.М.Карбышава.

**Ірына СУКРЫСЦІК,**
**супрацоўніца музея.**

